ВЫ ПРАСІЛІ РАСКАЗАЦЬ

# РАБОЧАЯ ГРУПА СНД І ЕЎРАПАРЛАМЕНТ МОГУЦЬ ЛІЧЫЦЬ СЯБЕ СЯБРАМІ

**За шматлікімі ўнутрырэспубліканскімі праблемамі многія, напэўна, забыліся аб тым, што менавіта ў сталіцы Беларусі знаходзіцца Рабочая група саветаў кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў СНД. Інфармацыі аб яе дзейнасці ў рэспубліканскім друку амаль не з'яўляецца. Таму «Звязда» вырашыла прысвяціць Рабочай групе некалькі матэрыялаў. Але пачнём крыху з іншага. Нядаўна ў Страсбургу на пасяджэннях Еўрапарламента пабывала дэлегацыя Рабочай групы СНД на чале з народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь Іванам Каратчэнем. Як еўрапейскім краінам удаецца жыць аб'яднаўшыся, нягледзячы на розныя палітычныя кіраўніцтвы, мовы, грошы, культурныя традыцыі і нацыянальныя плыні? Якім чынам можна так паспяхова кіраваць аб'яднанай Еўропай? І ці не гэта ідэальны прыклад для краін былога Саюза, якім пакуль што не вельмі проста жыць у рамках СНД? Пра гэта мы папрасілі расказаць членаў дэлегацыі — пастаяннага прадстаўніка Узбекістана ў Рабочай групе СНД Анвара МАХМУДАВА і пастаяннага прадстаўніка Украіны Юрыя УСАТАГА.**

— Нас запрасіў у Страсбург генеральны сакратар Еўрапарламента Энрыка Вінчы. Галоўныя мэты паездкі былі наступныя: азнаямленне са структурай і схемай работы парламенцкага органа Еўрапейскага супольніцтва, распрацоўкай і прыняццем рашэнняў, кантролем за іх выкананнем, формамі сувязей паміж дзяржавамі на палітычным і эканамічным узроўні. Мы збіраліся высветліць, на якіх прынцыпах будуюцца адносіны паміж дзяржавамі Еўрапарламента, каб усё найбольш карыснае ўзяць для структуры СНД. Дэпутаты ў Еўрапарламент (а іх усяго 518 з дванаццаці краін) выбіраюцца прамым галасаваннем у сябе на радзіме па квотах, замацаваных у залежнасці ад колькасці насельніцтва. Ёсць яшчэ і Савет Еўропы, куды ўваходзяць прэм'ер-міністры 26 дзяржаў — членаў Еўрапейскай садружнасці. Існуе таксама Камісія эканамічнай супольнасці, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Бруселі.

**— Што сабой уяўляе палітычны спектр Еўрапарламента?**

— Сапраўды, цікава, што дзяленне Еўрапарламента ажыццяўляецца не па дзяржаўнай, а па партыйнай прыкмеце. 71 партыя, што аб'яднаны ў 10 фракцый, прадстаўляюць усе колеры палітычнага спектра ад левых (камуністаў, сацыял-дэмакратаў і да т. п.) да самых правых накшталт Ле Пэна. Адпаведна месцы ў зале парламента размешчаны па партыйнай прыналежнасці, таму разам могуць сядзець англічанін, датчанін і француз. Больш за ўсё ў Еўрапарламенце хрысціянскіх дэмакратаў, ёсць нават дзве камуністычныя фракцыі.

**— Напэўна, ва ўмовах такой многапартыйнасці культура палітычных дыскусій у Еўрапарламенце пакідае жадаць лепшага. (Гэта пытанне аўтар задаў, маючы на ўвазе дэбаты ў парламенце РБ).**

— Зусім не. Любыя пункты гледжання выказваюцца ў карэктнай форме, прадстаўніка любой палітычнай партыі ўважліва слухаюць і не перабіваюць. Дыскусія звычайна ідзе без эмацыянальных выпадаў у бок апанента, з пераканаўчымі аргументамі.

**— Якім статусам валодаюць рашэнні парламента?**

— Рашэнні падраздзяляюцца на дзве катэгорыі — заканадаўчыя і рэкамендацыйныя. Звычайна яны абавязковыя для выканання ва ўсіх дзяржавах, якія ратыфікуюць іх сваімі парламентамі. Цікава, што нават краіны, якія не з'яўляюцца членамі Еўрапейскага супольніцтва, могуць прымаць для ажыццяўлення рашэнні Еўрапарламента. Кантроль за выкананнем ўскладзены на нацыянальныя парламенты і адпаведныя камісіі Еўрапарламента. Дарэчы, у ім усяго 19 камісій. Самыя цяжкія і спрэчныя пытанні выносяцца ў Еўрапейскі суд, які знаходзіцца ў Люксембургу і рашэнні якога абавязковыя для ўсіх.

**— СНД — погляд са Страсбурга. Што гэта — мёртванароджанае дзіця ці магутнае дзяржаўнае ўтварэнне?**

— Як ні дзіўна, але ў Еўрапарламенце амаль няма інфармацыі аб СНД. Яны не ведаюць, што такое Рабочая група, і многія нашы сустрэчы, пагадненні, дакументы з'явіліся для іх нечаканым адкрыццём. Таму ўсе сустрэчы кіраўнік нашай дэлегацыі Іван Міхайлавіч Каратчэня пачынаў літаральна з падрабязных тлумачэнняў структуры і задач Рабочай групы, Савета кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў. На ўсіх узроўнях адчувалася зацікаўленасць да СНД і жаданне ёй дапамагчы.

**— Зноў гуманітарная дапамога?**

— Чаму? Гэта будзе вельмі шырокая падтрымка СНД з боку Еўрапарламента, пачынаючы ад метадалагічных пытанняў і да, так, сапраўды, — матэрыяльнай дапамогі. Яны згадзіліся нават на тое, каб вучыць нашых спецыялістаў прама там, у Еўрапарламенце, прычым у тым жа рэжыме. Гэта вельмі вялікі давер. Прадстаўнікі парламента адчынілі перад намі ўсе дзверы. Калі будзе зацікаўленасць абодвух бакоў, прэзідэнт і генеральны сакратар Еўрапарламента гатовы прымаць удзел у пасяджэннях кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў СНД. І адзін з галоўных момантаў—абмен інфармацыяй паміж Еўрапарламентам і Рабочай групай СНД.

**—Здаецца, вядомы філосаф Салаўёў заўважыў, што цывілізаваныя народы аб'ядноўваюцца і толькі варвары раз'ядноўваюцца. Цяпер кіраўнікоў некаторых краін, што ўваходзяць у СНД, не задавальняе сённяшняе дзяржаўнае ўладкаванне. Як да гэтага ставяцца ў Еўрапарламенце?**

— Еўрапарламент вельмі зацікаўлены, каб СНД жыла і развівалася, але яны не выключаюць па вялікаму рахунку і распаду Садружнасці, хоць вельмі баяцца гэтага з-за сённяшняй палітычнай нестабільнасці. У любым выпадку Еўрапарламент зацікаўлены, папершае, у тым, каб заставаўся нейкі каардынуючы орган і, па-другое, каб заставаліся сувязі былых краін СССР з краінамі Еўрапейскага супольніцтва. Так, усе мы незалежныя дзяржавы, але пры існуючай інтэграцыі нельга і немагчыма проста ўзяць ды і парваць адзін з адным. Нават калі мы ў будучым увойдзем у састаў Савета Еўропы, нам прыйдзецца ўсё роўна выконваць адзіныя рашэнні. Таму трэба ўжо зараз будаваць адносіны на цывілізаваным узроўні.

**— Думаецца, і ў іх ёсць пэўныя цяжкасці?**

— Цяжкасці ў іх чыста тэхнічныя. Напрыклад, вельмі няпроста ўсе дакументы перакладаць на дзевяць моў (усе яны афіцыяльныя). Таму ім дaспадобы прыйшоўся наш вопыт, калі ўсе рашэнні рыхтуюцца на адной мове — рускай.

**— І ўсё роўна Рабочай групе СНД трэба шмат што пераняць з работы Еўрапарламента...**

— Сапраўды. Але гісторыя Еўрапейскага супольніцтва пачалася яшчэ ў 1949 годзе, а Рабочая група існуе толькі з лютага (ды і сам саюз трох славянскіх дзяржаў утварыўся 8 снежня мінулага года). Гэта што датычыць тэрмінаў існавання. У Еўрапарламенце каля 3 тысяч штатных супрацоўнікаў, ды яшчэ ў Камісіі эканамічнай супольнасці працуе іх 12 тысяч. А ў Рабочай групе няма і сотні чалавек, але тым не менш прыняты ўжо 102 пагадненні на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў. Усе гэтыя дакументы вельмі важныя, і нават у Еўрапарламенце прызналі нашу «прадукцыйнасць працы». Трэба яшчэ ўлічваць тое, што там усё камп'ютэрызавана, а ў нас вельмі не хапае аргтэхнікі.

**— Ці праўда, што любы жадаючы можа прыйсці і пацікавіцца работай парламентарыяў у Страсбургу?**

— Гэта не так. Там вельмі жорсткая сістэма ўваходу. Кіраўнік службы бяспекі Луіджы Марміна паведаміў нам, што існуе двайная сістэма прапускоў. Акрамя таго, сумкі літаральна ўсіх (у тым ліку і дэпутатаў) праходзяць спецкантроль. На кожнага дэпутата ёсць поўны блок інфармацыі аб усіх сферах яго жыцця. Цікава, што калі ў абмяркоўваемым пытанні дэпутат зацікаўлены асабіста, ён не мае права прымаць удзел у абмеркаванні. Напрыклад, фермер не можа абмяркоўваць пытанне аб фермерстве. Дзеля гэтага і збіраецца «дасье» на кожнага дэпутата.

Галоўны з вынікаў паездкі заключаецца ў тым, што мы знайшлі падтрымку і ўзаемаразуменне ў еўрапейскіх парламентарыяў. А гэта значыць, супрацоўніцтва паміж СНД і Саветам Еўропы будзе працягвацца, тым больш што ў другой палавіне мая ў СНД з візітам прыбудзе генеральны сакратар Еўрапарламента Энрыка Вінчы. Так што будзем спадзявацца на лепшае.

Запісаў
**Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

ШЭСЦЬ ГАДОЎ АД ЧАРНОБЫЛЯ

# Дзе межы бяды?

У ТЫЯ ДНІ ТРЫВОГА, насцярожанасць заўважаліся на твары кожнага. Чуткі пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС прывялі людзей, пражываючых на прылягаючых да станцыі тэрыторыях, у стан няпэўнасці і боязі. Афіцыяльнай інфармацыі аб тым, што здарылася ў Чарнобылі, не было. Толькі ў мясцовым друку і па раённаму радыё выступілі з кароткімі паведамленнямі аб тым, якія меры перасцярогі трэба захоўваць, галоўны санітарны ўрач раёна і яго намеснік. Але незвычайнасць абстаноўкі няўзброеным вокам адчувалася па валтузні ваенных, якіх да гэтага ў Хойніках ніхто не бачыў, ды па саставах з магутнай тэхнікай на чыгуначнай станцыі. Яны хутка разгружаліся і накіроўваліся калонамі ў бок Чарнобыля.

Больш трывогі было ў тых, хто аказаўся ў непасрэднай блізкасці ад небяспечнага ачага. Кіраўніцтва гаспадарак прыпяцкай зоны літаральна засыпала раённы штаб пытаннямі: як быць?; што рабіць? Але ніякіх установак, акрамя таго, што трэба захоўваць спакой, адтуль не паступала. У раённым цэнтры ішла падрыхтоўка да першамайскай дэманстрацыі. Вуліцы і плошчы Хойнікаў упрыгожваліся сцягамі і чырвонымі палотнішчамі. Традыцыйны рытуал святадзейства яўна не ўпісваўся ў надзвычайнасць абстаноўкі. І, тым не менш, устаноўка на яго шэсце была цвёрдай і бескампраміснай. Невядома па чыёй камандзе па школах пайшла гуляць кампанія па выяўленню асоб, якія вывезлі з зоны бедства сваіх дзяцей.

Тут, як гаворыцца, знайшліся і рашучасць, і смеласць узяць на сябе адказнасць. Што ж тычыцца сутнасці бедства, мясцовыя ўлады чакалі каманды зверху. І пакуль вярхі вырашалі, інстынкт самазахавання прывёў у дзеянне нізы. Насуперак усялякім забаронам тайнае адсяленне дзяцей пайшло паўсюдна. Відаць, яно стымулявала і так званае арганізаванае. Калі на цэнтральнай плошчы Хойнікаў ішла першамайская дэманстрацыя, групы ўпаўнаважаных былі адпраўлены ў 30-кіламетровую зону для эвакуацыі дзяцей. Праз некалькі дзён пачалі вывозіць іх з гарадскіх школ і дашкольных устаноў. Да гэтага часу некаторыя камуністы з ліку кіраўнікоў ужо мелі непрыемныя размовы ў райкоме на прадмет таго, што дачасна зрабілі гэта. Што ж, такі патрабавальны і строгі быў той парадак і час. Жыць сваім розумам было амаль што забаронена. Нават там і тады, дзе і калі гэта тычылася асабістага. Дыктат улады заставаўся нязломным нават у надзвычайнай абстаноўцы, якая склалася ў раёне ў выніку аварыі на ЧАЭС.

Бяда зрабіла так, што дзеці на працяглы час засталіся без бацькоўскага клопату, бацькі—у клопатах аб іх. Кожныя выхадныя на працягу лета сотні машын імчалі з Хойнікаў у далёкія вёрсты сустрэч. Працяглы аздараўляльны перыяд стамляў усіх.

Але тут, як гаворыцца, яшчэ паўбяды. Горш давялося людзям, адселеным у пачатку мая з 30-кіламетровай зоны. Іх размясцілі ў школах, клубах, прыватных кватэрах у вёсках, аддаленых ад зоны. Без увагі яны не заставаліся, наведвалі іх і артысты, і медыкі, і прадстаўнікі ўлады не абыходзілі. Але пакуты па сваёй малой айчыне, усім тым, што пакінулі з нажытага ў зоне, не давалі спачыну. Суцяшала неяк надзея, што праз які час зноў вярнуцца ў свае вёскі. Такой была ўмова адсялення, хаця невядома, на чым яна грунтавалася. Хутчэй за ўсё на няведанні сапраўдных маштабаў аварыі. Сёння дапушчальная і думка, што гэта проста замоўчвалася, каб неяк стрымаць пагрозу ўсеагульнага гневу. Няхай яно застаецца на сумленні тых, хто задумаў такім чынам ратаваць і ратавацца. Іх крывадушнасць моцна параніла тысячы сумленных душ, пагнаўшы людзей нязведанымі шляхамі выратавання. Праходзяць гады, але боль тых пакутных дзён толькі абвастраецца. Ад чаго? А вы спытайце ў саміх перасяленцаў. Калі стала вядома, што вяртанне на ранейшае месца жыхарства немагчыма, было праведзена сярод перасяленцаў апытанне. Яно засведчыла жаданне пераехаць цэлай гаспадаркай, вёскай. На жаль, так не атрымалася, таму распаліся калектывы, лёс параскідваў аднавяскоўцаў па ўсіх кутках Беларусі.

Па рознаму прынялі іх на новых месцах. Дзе аднесліся з увагай і клопатам, там больш-менш яны знайшлі супакаенне, прыжыліся. У радзе ж выпадкаў так не атрымалася. Гэтых людзей нярэдка дакараюць у тым, што яны атрымалі многа грошай, нажыліся на бядзе. Запытальна: у чым жа яны вінаватыя?

Каб зразумець чалавека, трэба пастарацца сябе паставіць на яго месца. Жылі да бяды людзі на сваіх месцах, нічога ні ад каго не патрабавалі. І рабіць ім такія дакоры — гэта значыць яшчэ раз параніць душу, якая не адышла ад чарнобыльскага болю. Эвакуіраванымі яны сталі не па сваёй волі. Колькі давялося людзям перажыць, пакуль яны знайшлі пастаяннае месца жыхарства! Не зайздрасці, а звычайнага чалавечага спачування заслугоўваюць перасяленцы.

Асабіста я баюся гэтага слова. Магчыма таму, што давялося збіраць жыхароў вёскі Чамкоў у тыя майскія дні 1986-га ў пакутнае вандраванне. Паглядзелі б вы, як балюча і цяжка гэта перажываць. І калі я сустракаюся цяпер з гэтымі людзьмі, адчуваю сябе нібы вінаватым перад імі.

Чарнобыль апрабаваў на вартасць і чалавека, і наша грамадства, і дзеяздольнасць практычна ўсіх яго структур. На першым часе яны памкнуліся ў меру сваіх магчымасцей раздзяліць лёс патрапіўшых у бяду людзей. Не было дня, каб хтосьці з высокага кіраўніцтва не прыбываў у пацярпеўшы раён, не прапаноўваў сваёй дапамогі. З часам такія дабрачынныя адносіны пацясніліся бесклапотнасцю. Ліквідацыя вынікаў аварыі амаль цалкам легла на плечы мясцовых улад. А што яны могуць зрабіць, калі ні фінансавых, ні матэрыяльных сродкаў пад такія аб'ёмы работы няма.

Наогул сітуацыя ў радзе месц пайшла непрадбачаным шляхам. У тых жа Хойніках неўзабаве стала згортвацца дзейнасць будаўнічых арганізацый. Цяпер практычна няма каму праводзіць рамонт наяўнага жыллёвага фонду, школ, дашкольных устаноў, аб'ектаў камунальнай гаспадаркі.

Надзвычай абвастрылася праблема будаўніцтва жылля для пражываючых у межах так званай зоны абавязковага адсялення. У радзе вёсак засталіся лічаныя сем'і, якіх проста няма куды адсяліць.

У цяперашняй неразбярысе не знаходзяць вырашэння многія іншыя пытанні ліквідацыі паследкаў аварыі. Сумненню сталі падвяргацца некаторыя гарантыі па сацыяльнай абароненасці грамадзян, пацярпеўшых ад чарнобыльскай бяды. Прадугледжаныя заканадаўствам і ўрадавымі пастановамі меры ў гэтым напрамку з-за адсутнасці матэрыяльных сродкаў могуць аказацца проста дэкларавaнымі. Збалелым душам пацярпеўшых будзе нанесены яшчэ адзін удар. Нельга дапусціць такога, незалежна ў якім грамадстве мы станем жыць. Чарнобыльскі боль асабліва балючы, хаця раны яго нябачныя. Ён павінен быць адчуты ўсімі, не прытупляцца на любым узроўні, куды б не стукаліся са сваімі патрэбамі пацярпеўшыя ад аварыі людзі.

На пачатку такое разуменне было, з часам яго становіцца ўсё менш і менш. Нядаўна мне давялося гаварыць з кіруючымі работнікамі Хойніцкага райвыканкома наконт аздараўлення дзяцей гэтым летам. Яны мне сказалі: з падлеткамі да 10 гадоў пытанне больш-менш вырашаецца. Дзеці старэйшага ўзросту звычайна праводзілі лета ў лагерах працы і адпачынку ў Малдове, рэспубліках Прыбалтыкі, Краснадарскім краі. Сёння туды дарогі няма. Дзяржаўны суверэнітэт адразу паказаў сваю няміласць да рэгіянальных праблем. Нават здароўе дзяцей яму ні па чым, бо цяпер яны не нашы, замежныя.

Прыкра, што новыя межы так хутка давялі да мяжы самае святое — нашу чалавечнасць. Горш будзе, калі, як у той пакінутай 30-кіламетровай зоне ЧАЭС, тут забуяе горкі палын. Дзіцячая душа можа не вытрымаць яго крутой прыправы. Яна будзе гарэць, як цяпер гарыць зона, разносячы атрутны чад радыяцыі. Пажарныя каманды ўжо не спраўляюцца з гэтымі небяспечнымі ачагамі. У аўторак, сёмым днём красавіка, у вёсцы Кажушкі згарэла адразу 15 хат. Пажары гуляюць па неабсяжных прасторах паросшага быльнягом урочышча «Майдан». Калючым дротам, адмежаваўшым зону, не абараніць ад іх ні лясоў, ні палеткаў, на якіх цяпер ідзе сяўба. Трэба разбірацца з самой зонай. Пакуль жа яна пакінута на водкуп лёсу. Тут уладараць бадзяжнікі і злодзеі. Выкрадзена і вывезена з дамоў усё, засталіся на сценах толькі рамкі з фатакарткамі...

...Сёлета гадавіна чарнобыльскай бяды супала са святочным Вялікаднем. Перасяленцы на свята звычайна прыязджаюць на могілкі ў свае некалі родныя вёскі — на дзень памяці. Яго, гэты дзень, сімвалічна назваць і днём сустрэч іх, пакуль жывых паганнікаў лёсу.

Балючыя і цяжкія гэтыя сустрэчы без віны вінаватых, са збалелымі душамі людзей. Самі яны там, на новым месцы, а душы, добрыя, папаляшуцку шчырыя, тут — дзе іх праца і пот, сцяжынкі дзяцінства і магілы продкаў. Нічым не адмежаваць гэтую парoдненасць — ні калючым дротам, ні адлегласцю, ні часам. Святасць малой Бацькаўшчыны вечная, яе не разбурыць ніякімі выбухамі.

З'едуцца перасяленцы і 26-м красавіцкім днём. Сустрэнуцца, пагавораць, пройдуцца, як бывала, роднай вуліцай, заглянуць у родную хату. Вар'яцтва рабаўнікоў прыбавіць ім болю. Што ж, калі сярод нас ёсць такія, хто прагне пагрэць рукі на чужой бядзе... Шкада, што нельга распазнаць іх.

Шэсць гадоў з дня бяды — трывожных, сумных і цяжкіх для тысяч нашых людзей. Цяжкіх тым, што многа, на жаль, у ёй невядомага і ўмоўнага. Дзе сапраўдныя межы бяды? І праз гады няма адказу на гэта пытанне. Затое ўсё больш усталёўваецца разуменне, што з часам вастрыня неабходнасці змагацца з яе паследкамі спадае. Як і ўвага да людзей, пацярпеўшых ад чарнобыльскай аварыі.

Час спахапіцца, адумацца, інакш мы можам патануць, не даплыўшы да берага. Гэтага патрабуюць нормы звычайнай чалавечнасці.

**Арсен САКУН.**



**Каля 80 швейных вырабаў за змену выпускае невялікі калектыў швейнага цэха сельскагаспадарчага прадпрыемства «Астрамечава» Брэсцкага раёна. Гэтыя жанчыны (на здымку) робяць прыгожыя курткі і спартыўнае адзенне.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# Акцыя «Даць Надзею» працягваецца

**Па звестках, атрыманых з пасольства ЗША ў Мінску, амерыканскі ўрад паведамляе аб пачатку другой фазы паветранай гуманітарнай дапамогі ў Рэспубліку Беларусь. 24 красавіка ваеннае паветранае судна С-140 Злучаных Штатаў Амерыкі прыбудзе ў міжнародны аэрапорт «Мінск-2» з грузам фармацэўтычных і медыцынскіх прыналежнасцей.**

Атрымальнікам адпраўлення з боку ўрада Беларусі з'яўляецца Людміла Сыраегіна, загадчык аддзела гуманітарнай дапамогі Савета Міністраў Беларусі.

Кошт медыкаментаў і фармацэўтычнага абсталявання другой фазы акцыі «Даць Надзею» ацэньваецца ў 8,5 мільёна долараў ЗША.

Сёлета ў лютым за 17 дзён у рамках гэтай акцыі за 65 палётаў ў краіны Садружнасці было перапраўлена 2.200 тон прадуктаў і медыцынскага абсталявання.

Рычард Л. Эрмітадж, амерыканскі каардынатар гуманітарнай дапамагі Садружнасці Незалежных Дзяржаў, сказаў тады: «Гэтыя дзеянні былі пачаткам доўгатэрміновай праграмы дапамогі наваствораным незалежным дзяржавам на іх шляху да дэмакратыі і вольнай рынaчнай сістэмы».

# ВАША ПІСЬМО АТРЫМАЛІ

**Што і казаць, дарагія цяпер пуцёўкі ў дом адпачынку, а тым больш — у санаторый. Здаецца, набыць іх зараз можна. Але вось перад жыхаркай г. Пінска С. Петрушэнка, якая працуе тэхнічкай у мясцовым праектным інстытуце «Саюзгіпром», узнікла праблема трапіць у адну з такіх аздараўленчых устаноў... Пра сваю праблему жанчына і напісала ў «Звязду».**

Як паведаміў **загадчык аддзела па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню савета прафсаюзных арганізацый Брэсцкай вобласці І. УСАЦЕНКА,** пытанне вырашана станоўча. У сувязі з просьбай С. Петрушэнка абком прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу выслаў пуцёўку для дарослага і дзіцяці ў санаторый «Беларусь», што знаходзіцца ў Ждановічах, з 26 чэрвеня на адрас Пінскага райкома прафсаюза работнікаў АПК.

●

**«Дарагая рэдакцыя, паўплывайце, калі ласка, на кіраўнікоў аўтапарка № 2. Немаведама чаму яны скарацілі аўтобусны маршрут у нашу вёску», — скардзіўся ад імя жыхароў в. Дуброва Слуцкага раёна Фёдар Якаўлевіч Паўлюкевіч.**

Вось што па гэтаму пытанню растлумачыў **начальнік аб'яднання «Мінскаблаўтатранс» А. КАЛЯГА:**

— Пісьмо, адрасаванае рэдакцыі газеты «Звязда», разгледжана разам з кіраўніцтвам Слуцкага АП № 2 і калгаса імя Энгельса Слуцкага раёна. Сапраўды, аўтобусны маршрут да в. Дуброва быў адкрыты ў 1990 г. па хадайніцтву праўлення калгаса імя Энгельса, які заключыў дагавор на кампенсацыю страт аўтапарку № 2. Аднак з 1.1.92 г. у сувязі з падаражаннем перавозак з-за павышэння цэн на матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы і адмовай старшыні калгаса Н. Шуляхоўскага заключыць аналагічны дагавор на сёлетні год, а таксама са скарачэннем выдзялення паліва кіраўніцтва АП № 2 прыняло рашэнне выконваць аўтобусныя рэйсы толькі да в. Серадзякі.

Аднак з 23 лютага аўтобусны рух па маршруту Слуцк — Дуброва адноўлены да прыпынку «Чыгуначны пераезд», які размешчаны ад в. Дуброва на адлегласці 1,9 км.

Паведамляецца таксама, што нават скарочаны гэты маршрут за студзень прынёс страт на суму 14.950 рублёў. І гэта ўжо інфармацыя, як кажуць, для роздуму.

●

**Як гаворыцца, без вады — і ні туды, і ні сюды. Не можа без яе абысціся таксама інвалід Вялікай Айчыннай вайны Н. Коган з пасёлка Смальяны Аршанскага раёна. Нялёгка даецца яму кожнае вядзерца той вадзіцы. Вось састарэлы, хворы чалавек і прасіў наблізіць яе да яго дома.**

Ці магчыма гэта?

— Аршанскі райвыканком, — паведамляе рэдакцыі **намеснік яго старшыні Н. КАВАЛЕНКА,** — разгледзеў пісьмо і высветліў, што дом ветэрана знаходзіцца на адлегласці 70 метраў ад калонкі і за 100 метраў ад водаразборнага калодзежа. Нягледзячы на гэта, Смальянскі сельскі Савет выдзеліў Н. Когану водаразборную калонку, якая будзе ўстаноўлена ў ліпені сёлетняга года.

●

**Ні для каго не сакрэт, што сёння гандлююць усюды і чым толькі могуць. Жыхара з г. Рэчыца У. Гаўрыленку моцна абурыла тое, што ў Гомелі правінцыяльныя «карабейнікі» прадавалі сапсаваную каўбасу. У пісьме ў «Звязду» ён прасіў высветліць, хто яны, гэтыя гандляры, і якія меры да іх прыняты за такое самавольства.**

У адказе **намесніка старшыні Гомельскага аблвыканкома А. ЯРЧАКА,** пацвярджаецца, што факты, выкладзеныя ў допісе нашага чытача, мелі месца. Сумесна з аблспажыўсаюзам і Дзяржгандальінспекцыяй ўстаноўлена: работнікі Буда-Кашалёўскага райспажыўсаюза з мэтай «сплавіць» каўбасныя вырабы не першай свежасці прадавалі іх без купонаў у абласным цэнтры.

На момант праверкі было рэалізавана 90 кілаграмаў на суму 8.253 рублі. Астатак (59 кг) па патрабаванню Дзяржгандальінспекцыі быў зняты з продажу і накіраваны на Жлобінскі мясакамбінат для прамперапрацоўкі ў адпаведнасці з патрабаваннямі дзеючай нарматыўна-тэхнічнай дакументацыі.

За дапушчаныя парушэнні правіл гандлю Дзяржгандальінспекцыя прыцягнула да адміністрацыйнай адказнасці намесніка дырэктара рознічнага гандлёвага аб'яднання Т. Нябеснікаву, загадчыц магазіна «Мяса-малако» Л. Уласаву і «Універсама» Т. Часнову — кожная з іх аштрафавана на 100 рублёў. Акрамя таго, загадам па аб'яднанню ім аб'яўлены вымовы. Штраф па 50 рублёў накладзены таксама на прадаўцоў гэтых магазінаў Т. Каржанкову, Е. Недагрэенка, Ю. Мяшкову.

**Аддзел пісьмаў «Звязды».**
**(Тэлефон 32-04-52).**

РЫНАК ЯК ЁН ЁСЦЬ

# Ці чакае нас светлая будучыня?

## Як жывём, як будзем жыць

Наўрад ці трэба яшчэ раз паўтараць тое, што сённяшняя сітуацыя ў эканоміцы рэспублікі далёка не бязвоблачная?

Новым жыццём мы пачалі жыць з канца 1990 года, калі з благаславення беларускага парламента наша эканоміка стала пераходзіць у новую рынaчную якасць. Аднак рашучы паварот да рынку адбыўся ва ўмовах абвостранай палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы, слабай яе забяспечанасці ўласнымі сыравіннымі і іншымі рэсурсамі, ва ўмовах структурнага перакосу народнай гаспадаркі і звышманапалізму. Уся гэтая спадчына, безумоўна, адбіваецца на рэалізацыі задуманай рынaчнай рэформы, але не апраўдвае тых рэальных хібаў, якія ўжо зроблены. Абвясціўшы рух да рынку, трэба рэальна да яго ісці. Залогам абавязковага поспеху на гэтым шляху была пачатковая стабілізацыя эканамічных адносін, і ў першую чаргу грашова-фінансавай сістэмы.

Аднак з-за моцнай інтэграцыі эканомікі рэспублікі ў адзіную грашова-крэдытную сістэму былога Саюза былі правалены або зведзены на нішто нясмелыя крокі ўрада Беларусі ў гэтым напрамку. У выніку ў мінулым годзе ніякай стабілізацыі не адбылося, а наадварот, рэзка вырас дэфіцыт дзяржбюджэту, парушыліся міжгаспадарчыя сувязі, павялічылася сацыяльная напружанасць і палітызацыя грамадства. Адным словам, з самага пачатку даў збой паэтапны механізм фарміравання рынaчных адносін, які прадугледжваўся.

Ключавы момант пабудовы рынку — прыватызацыя. Толькі яна ў сукупнасці з антыманапольным рэгуляваннем здольна ўключыць рухавік рынaчнага механізму — канкурэнцыю. Што мы маем у гэтай сферы? Пытанне тым больш цікавае, калі ўлічваць, што лібералізацыя цэн ужо наступіла. Аналіз сведчыць, што ажыццяўленне практычных дзеянняў насіла стыхійны характар. Хоць праграма пераходу да рынку прадугледжвала да гэтага моманту правядзенне пачатковага этапу прыватызацыі, гэты працэс (як арганізацыйны) па сутнасці яшчэ не разгортваўся. На долю прадпрыемстваў недзяржаўнага сектара эканомікі Беларусі ў 1991 годзе прыпадала ўсяго каля 11 працэнтаў аб'ёму прамысловай вытворчасці. Недзяржаўныя прадпрыемствы ў асноўным прадстаўлены кааператывамі (50 працэнтаў ад іх агульнай колькасці) і арэнднымі прадпрыемствамі (30 працэнтаў). Рэальнае акцыяніраванне толькі пачынаецца і ідзе вельмі марудна. У цэлым можна канстатаваць, што працэс пераўтварэння ўласнасці ў рэспубліцы не забяспечаны прававой базай.

У выніку працэс прыватызацыі замкнуўся ў рамках так званага адміністрацыйнага права. Спавядаецца вырашальны парадак змянення форм уласнасці ад імя міністэрстваў і ведамстваў, якім дэлегаваны правы кіравання маёмасцю падведамных прадпрыемстваў. У выніку многія прадпрыемствы, якія выказалі жаданне прыватызавацца, не могуць гэта ажыццявіць. Бо вышэйшыя органы кіравання зусім не зацікаўлены ў абмежаванні сферы свайго ўплыву. У лепшым жа выпадку ведамствы навязваюць вытворчым калектывам найбольш выгадныя для сябе ўмовы. Напрыклад, замест акцыяніравання дазваляецца толькі арэнда з наступным выкупам і г. д. Да гэтага часу з працэсу прыватызацыі выключана пераважная частка насельніцтва рэспублікі.

Да ліку важнейшых праблем фарміравання рынaчнай эканомікі адносяцца пытанні арганізацыі і развіцця свабоднага прадпрымальніцтва. Узровень прадпрымальніцкай актыўнасці, наяўнасць ініцыятыўных і здольных творча арганізаваць і весці справу людзей (прадпрымальнікаў) у многім прадвызначае, як сведчыць сусветны вопыт, эканамічны прагрэс любога грамадства.

Аналіз ходу развіцця працэсу прадпрымальніцтва ў рэспубліцы за апошнія тры гады гаворыць аб тым, што новыя формы бізнесу сустракаюць на сваім шляху комплекс перашкод арганізацыйнага, фінансавага, сацыяльнага, юрыдычнага, кадравага, псіхалагічнага і іншага парадку. Грамадская псіхалогія доўгі час фарміравалася пад дамінантай уяўлення аб прадпрымальніцтве як аб чужой і негатыўнай з'яве. Усё гэта знайшло сваё замацаванне ў дзеючай практыцы гаспадарання.

Дастаткова супярэчлівая, няпоўная і ў цэлым неадэкватная рынaчным патрабаванням развіцця прадпрымальніцтва існуючая заканадаўчая база.

Адсутнічаюць дзяржаўныя гарантыі прадпрымальніцтва, у выніку чаго займацца гэтай справай дастаткова рызыкоўна.

Такім чынам, калі мы і далей будзем развіваць рынaчныя адносіны такімі метадамі, патрабуецца ніяк не менш 20 гадоў. А сітуацыя ў эканоміцы складваецца дастаткова напружаная. З-за зрыву паставак з сыравінных рэгіёнаў на мяжы спынення многія прадпрыемствы. Палітычная нестабільнасць у суседніх дзяржавах Садружнасці ўскладняе гэту сітуацыю і ў нашай рэспубліцы, у выніку чаго рынaчная рэформа наогул можа аказацца пад пытаннем. Вядомыя наша памяркоўнасць і талерантнасць, накіраваныя на першачарговы ўлік інтарэсаў партнёраў па рознага роду палітычных і эканамічных адносінах, прыводзяць да ўшчамлення ўласных інтарэсаў. Калі такая палітыка будзе працягвацца ў ранейшых маштабах, то незалежная беларуская дзяржава наўрад ці адбудзецца.

Аднак чаго чакаць ад бліжэйшай будучыні? Ці будуць расці далей цэны? Уяўляецца, што ва ўмовах разумнага стрымлівання заработнай платы яны могуць некалькі павялічыцца па асобных таварных групах, а ў выпадку ўвядзення ўласных нацыянальных грошай — наогул стабілізавацца.

Свой уплыў на развіццё бліжэйшай сітуацыі ў рэспубліцы акажа і мяркуемы рэферэндум аб даверы да існуючых улад. Адназначна можна сцвярджаць толькі тое, што калі ў адпаведнасці з яго вынікамі дзеючы ўрад пойдзе ў адстаўку, то новы ўсё роўна будзе асуджаны «даядаць» той «яблык» рынaчнай эканомікі, ад якога маленькі кавалачак ужо адкусілі.

І апошняе: у Беларусі ёсць усе ўнутраныя фактары для стабілізацыі эканомікі і пабудовы цывілізаванага рынку. Гэты баланс можа быць парушаны толькі ў выніку знешніх неспрыяльных уздзеянняў. Змяншэнне ж або выключэнне гэтых дэстабілізуючых уздзеянняў магчыма толькі на шляху радыкалізацыі самастойнай палітыкі ў правядзенні эканамічнай рэформы.

**К. ЛАГОЎСКІ,**
**загадчык аддзела праблем рынaчнай эканомікі НДЭІ Дзяржэканомплана РБ, кандыдат эканамічных навук.**

# Цырк на дроце.., або Балансаванне над безданню

**Наўрад ці можна сёння назваць цырк папулярным. А калі азірнуцца на пяць, сем, дзесяць гадоў назад, карціна паўстане полюсна процілеглая. Што адбылося? Ды, напэўна, прычын дастаткова. І справа зусім не ў людзях, дакладней, не ў артыстах — майстэрства і фанатызму ім хапае ва ўсе часы.**

Апошні і пакуль што самы балючы ўдар ніжэй пояса Мінскі дзяржцырк атрымаў разам з развалам Саюза. Бяда не ў нейкай настальгіі па старой сістэме, а ў асаблівай спецыфіцы работы любога цырка на тэрыторыі экс-СССР. Увесь час існаваў адзіны цыркавы канвеер, падпарадкаваны «Саюздзяржцырку», з якога і набіраліся артысты для работы на ўсіх манежах адной шостай часткі сушы. Гэта значыць, было амаль 7,5 тысячы да пары да часу свабодных цыркавых артыстаў, з ліку якіх можна было фарміраваць нейкія праграмы, падбіраць майстроў пэўных жанраў, арыентуючыся на ўласныя магчымасці і жаданні ўжо на месцах. Адным словам, рэзервы для дасягнення высокай якасці работы. Зараз, у ліхаманцы падзелу і суверэнізацый, гэты цыркавы канвеер сваё адзінства згубіў, разваліўшыся на групы, групкі і нават артыстаў-індывідуалаў.

— Увесь адладжаны гадамі механізм рассыпаўся вокамгненна, і «скляпаць» добрую праграму для работы на манежы цяпер неймаверна цяжка,—канстатуе сумны факт дырэктар Мінскага дзяржцырка Іван Сямёнавіч Пашкевіч і дадае, што гэтыя цяжкасці ўжо не толькі арганізацыйныя, але і фінансавыя. З пераходам на свабодны разлік ужо не ведаеш, які «нумар» з аплатай выкіне запрошаны артыст. Праўда, дзеля справядлівасці варта адзначыць, што ў адносінах да Мінскага цырка выпадкаў «вымагальніцтва» яшчэ не было. Як запэўнівае дырэктар, — і можна яму верыць, — Мінскі цырк заўсёды карыстаўся вялікім аўтарытэтам і павагай з боку артыстаў. Яно і зразумела: умовы для работы нязменна самыя лепшыя. І тым не менш сёння Мінскі цырк — арганізацыя стратная. Нават пераход на гасразлік не вырашыў наспеўшых праблем. А таму і застаецца ўспамінаць мінулае. У былой, адзінай сістэме «Саюздзяржцырк», куды ўваходзілі ўсе 70 калектываў Саюза, Мінскі цырк быў самым высокарэнтабельным. Калі ў цэлым па краіне рэнтабельнасць складала 19—20 працэнтаў, то ў Мінску — 65—70 працэнтаў. Цяпер толькі на продажы білетаў пратрымацца проста нерэальна.

— Апынуўшыся ў такой незайздроснай сітуацыі, мы былі вымушаны прасіць датацыю ў Міністэрства культуры, — тлумачыць Іван Пашкевіч. — Але магчымасці ў Міністэрства культуры таксама вельмі абмежаваныя, і назваць нашы перспектывы абнадзейваючымі даволі цяжка. Наглядны прыклад. Раней самы дарагі білет у нас каштаваў 3,5 рубля. Зараз—10, лічыце, білеты падаражалі амаль утрая. Але ж усё астатняе—кармленне жывёлін, плата за будынак, утрыманне артыстаў—узнялося ў цане ў 15—20, а то і 30 разоў. Калі раней за памяшканне з нас утрымлівалі 500 рублёў за суткі, то зараз — 5 тысяч, і я ўпэўнены, што гэта не мяжа. Далей. Яшчэ два гады назад для кармлення жывёлін мы куплялі мяса трэцяй катэгорыі па цане 1 рубель 10 капеек за кілаграм. Сёння яно каштуе 50 рублёў.

Раней, каб сфарміраваць і адправіць у іншае месца праграму (набыццё білетаў, заказ вагонаў, пагрузка, разгрузка і інш.), нам патрабавалася 10, максімум 12 тысяч рублёў, зараз на гэтыя мэты патрэбна як мінімум 130 тысяч. Разам з тым, бясконца павышаць кошт білетаў нельга, бо тым самым мы адмовімся ад гледача. А калі ўлічваць, што наша ўстанова перш за ўсё дзіцячага накірунку, то падобную спекуляцыю на дзецях ніяк іначай, як злачынствам, і не назавеш...

Вось і прыходзіцца кіраўніцтву ламаць галаву над праблемай, як зрабіць грошы. Сёетое ўжо ёсць. У памяшканні цырка на аснове дагавораў з трыма фірмамі адкрыты тры гандлёвыя кропкі, адна з якіх будзе гандляваць за валюту. Плануецца, што бюджэт такім чынам штомесяц будзе папаўняцца 150—170 тысячамі рублёў. Прыкладна на такую суму зараз цягне фонд заработнай платы. У час, калі артысты адпачываюць, манеж за плату аддаецца пад розныя, пераважна спартыўныя, мераприемствы. Яшчэ цырк мае свае гаражы, якія таксама здаюцца на пэўны тэрмін. Пры наяўнасці свабодных месц у цыркавой гасцініцы туды пасяляюцца ўжо не толькі артысты.

Акрамя таго, многія работнікі ахвяруюць сваімі выхаднымі і выступаюць з выязнымі нумарамі — і зноў жа для таго, каб папоўніць цыркавую казну. Карацей кажучы, усе магчымасці атрымання дадатковага прыбытку цырк імкнецца рэалізаваць. Але ўзнікае яшчэ адно немалаважнае пытанне: ці будзе праз год-другі перад кім выступаць?

Справа ў тым, што раней гледачы цэнтралізавана заказным транспартам з'язджаліся амаль з усіх куткоў рэспублікі. Для гэтага былі наладжаны сувязі з райвыканкомамі, напрамую — з кіраўнікамі гаспадарак. Сёння сітуацыя ў корані змянілася: транспарт стаў настолькі дарагі, што людзі, якія нават купілі білеты, проста не ў стане дабрацца да Мінска. Пры нескладаным падліку можна бачыць, у якую кругленькую суму абыходзіцца сям'і з чатырох чалавек наведванне цырка. Так што сельскі жыхар зараз аказаўся адрэзаным ад цырка, а менавіта ён і складаў амаль 40 працэнтаў наведвальнікаў. А з другога боку, ці будзе каго выводзіць на манеж, я маю на ўвазе братоў нашых меншых. З расійскіх, украінскіх, іншых цыркаў адно за адным прыходзяць паведамленні аб продажы за мяжу дрэсіраваных жывёлін. Прычына да жаху банальная: няма чым карміць.

—У нас такіх выпадкаў не было, і я спадзяюся, што не будзе, — гаворыць дырэктар Мінскага цырка. — Перш чым браць у праграму жывёлін, мы падлічваем, ці зможам забяспечыць іх кормам. На жаль, у апошні час усё часцей прыходзіцца адмаўляцца ад цікавых праграм з экзатычнымі звярамі. Але і тым, хто атрымаў «зялёнае святло», рацыён харчавання давялося ўрэзаць. Зараз у нас у праграме задзейнічана 13 мядзведзяў. Кожнаму з іх у месяц неабходна як мінімум 3 кілаграмы мёду. А вы ж ведаеце, што кілаграм мёду на рынку каштуе 200 рублёў. Прыходзіцца мядзведзя падманваць рознымі замяняльнікамі. Дарэчы, суткі кармлення нашых мядзведзяў абыходзяцца ў 1.200 рублёў. А кожнае прадстаўленне, нават пры 100-працэнтнай запаўняльнасці залы, стратнае на 4—5 тысяч. І тым не менш выпадкаў падзення або захворвання звяроў ад недаядання няма, і я малю Бога, каб не было і далей. Бо не ўяўляю сабе цырк без жывёлін. Гэта ўжо не цырк. Калі такая сітуацыя ўсё ж узнікне, то трэба будзе закрывацца і ісці на стадыён.

«Пайсці на стадыён» у выпадку чаго вымушаны будуць 153 чалавекі абслугі і амаль сто асобных артыстаў і цэлых дынастый, члены якіх з пакалення ў пакаленне жылі пад купалам цырка.

На маё пытанне, ці пагражае сумная сітуацыя з цыркам выліцца ў забастоўку «клоунаў ды акрабатаў», дырэктар упэўнена адказаў: не да таго зараз. І, напэўна, мае рацыю. Тут, папершае, свая спецыфіка. Падругое, у цырку могуць працаваць толькі фанаты, г. зн. людзі, бязмежна адданыя сваёй справе.

— Баставаць няма часу — увесь гэты дур ідзе ў фізічную трату энергіі. А пераважная ж большасць з-за гультайства. Цырк — гэта не прыгожая казка, а цяжкая фізічная, часам няўдзячная праца. Доўгі час работнік цырка атрымліваў амаль самую нізкую зарплату з усіх аплачваемых работ. Гэта зараз пры добрай рабоце можна атрымаць 2,5 тысячы — таксама сёння не грошы.

Не лепшыя, вядома, часы перажывае Мінскі дзяржцырк, а разам з ім — і яго наведвальнікі. Тым не менш дырэктар верыць у будучыню цырка.

— Цыркавое мастацтва настолькі незвычайнае і самабытнае, — рэзюмуе Іван Сямёнавіч Пашкевіч, — што яно не можа вось так проста загінуць. Гэта мастацтва нарадзілася ў народзе і можа знікнуць толькі разам з народам.

Будзем спадзявацца, што нашы дзеці, дзеці нашых дзяцей не забудуць дарогу ў казачную краіну, назва якой — цырк...

**Ігар КАРНЕЙ.**

НА ЗДЫМКАХ: сола-жанглёр Раман КАПАГІН і клоуны Юрый БАННІКАЎ і Аляксандр ЧАРВОТКІН.

Фота Аляксандра ЛАБАДЫ.

## НЕАДКЛАДНАЯ ДАЎРАЧЭБНАЯ ДАПАМОГА

АПТЭЧКА

### Запаленне ныркавай лаханкі (піеланефрыт)

ГЭТА САМАЯ РАСПАЎСЮДЖАНАЯ ХВАРОБА мочапалавых органаў выяўляецца амаль у палавіны хворых, што звяртаюцца да уролага. Развіваецца ў людзей рознага ўзросту і полу. Аднак дзеці, маладыя жанчыны і пажылыя мужчыны хварэюць часцей.

Піеланефрыт у дзяцей займае другое месца пасля хвароб органаў дыхання (хварэюць пераважна дзяўчынкі). У мужчын (маладых і сярэдняга ўзросту) піеланефрыт часцей за ўсё звязаны з мочакаменнай хваробай, з інфекцыяй у палавых органах, а ў пажылых — з пухлінай прастаты, што ўскладняе адток мачы.

Заўважана, што многія, хто перанёс гнойна-запаленчыя захворванні (грып, ангіну, фурункулы, мастыт, пераахаладжэнне, страўнікава-кішачныя парушэнні), хварэюць на піеланефрыт. У гэтых выпадках бактэрыі з ачагоў інфекцыі трапілі ў ныркі па крываносных сасудах.

Аднак для ўзнікнення запаленчага працэсу ў нырках гэтага яшчэ недастаткова. Ён развіваецца пры зніжэнні супраціўлення арганізма інфекцыі ў выніку пераатамлення, ахаладжэння, гіпавітамінозу, пасля інфекцыйных захворванняў, парушэння мочавыдзялення і мочаспускання.

ПРЫКМЕТЫ. У большасці людзей хвароба працякае цяжка. Праяўляецца дрыжыкамі, высокай тэмпературай цела, моцным потавыдзяленнем, болямі ў паясніцы.

Тупыя болі ў паясніцы, хуткая стамляльнасць, перыядычнае павышэнне тэмпературы, галаўны боль, пачашчаныя хваравітыя мочаспусканні — усё гэта сведчыць аб развіцці хранічнага піеланефрыту. Іншы раз выяўляецца гной у мачы (яна мутная).

АКАЗАННЕ ДАПАМОГІ. Захаванне пасцельнага рэжыму, прыём аспірыну, калі тэмпература падымаецца вышэй за 38 градусаў. Трэба шмат піць. З харчавання выключаюцца вострыя, салёныя, кіслыя стравы, вострыя прыправы. Абавязковае звяртанне да ўрача (тэрапеўта, уролага). Нягледзячы на магчымае паляпшэнне самаадчування, спыненне дрыжыкаў, зніжэнне тэмпературы і знікненне болю, запаленчы працэс яшчэ працягваецца. Таму лячэнне нельга перапыняць да таго часу, пакуль яго не адменіць урач.

## ГУЧЫЦЬ ЦУДОЎНЫ ПАЛАНЕЗ ЗАМЕСТ ПАРТЫЙНАГА ДАКЛАДА

**Нядаўна ў гэты кабінет маглі тэрмінова выклікаць любога кіруючага работніка Маладзечна. Размова тут была заўжды сур'ёзнай. Хіба прадбачыў хто, што надыдзе такі час, калі ў кабінеце партыйнага лідэра весела грымне аркестр баяністаў.**

**— Тут цяпер рэпеціруюць, — прычыніў масіўныя дзверы намеснік дырэктара маладзечанскай дзіцячай музычнай школы Валерый Шкурскі. — У наступных пакоях займаюцца віяланчэлісты, балалаечнікі, гітарысты, скрыпачы, піяністы — усім хапіла месца ў будынку былога гаркома. Марым цяпер правесці тут невялікі рамонт, бо добрая гукаізаляцыя была забяспечана толькі сакратарскім пакоям. А мы ж не можам прымусіць фартэп'яна размаўляць шэптам!**

**Задаволены наваселлем і дзеці, і выкладчыкі. Пяцьсот вучняў займаюцца цяпер у школе, гісторыя якой адлічвае пяты дзесятак гадоў. Цымбальны ансамбль і секстэт балалаек з'яўляюцца аднымі з лепшых музычных калектываў на Міншчыне.**

**Пераезд школы ў новы будынак — характэрная і добрая з'ява нашага часу. На жаль, не абышлі гэту дзіцячую ўстанову і іншыя рэаліі сучаснасці. У апошнія месяцы кожны маладзечанец чуў пра канфлікт, які ўзнік паміж калектывамі дзіцячай музшколы і мясцовага музвучылішча, якое на правах «старэйшага брата» вырашыла далучыць да сябе «брата малодшага». Настаўнікі музшколы выступілі ў друку з абгрунтаваным пратэстам супраць такога захопу, звярнуліся да народных дэпутатаў, але канфлікт усё не гасне.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Наташа ІНДЗІРАКОВА пераехала ў Маладзечна з Нароўлі, яна авалодвае ігрой на цымбалах; тут гучалі даклады і справаздачы; Ульян Васільевіч ЦЕРАБУН, вопытны настаўнік з дваццацішасцігадовым стажам.**



## РАДЫЁ

### 24 красавіка

9.15 — да 75-годдзя з дня заснавання ў Мінску Першага таварыства беларускай драмы і камедыі. «У віры гісторыі». Нататкі пісьменніка Б. Бур'яна. 9.45 — А. Ларын. Музычныя ілюстрацыі да аповесці В. Шукшына «Да трэціх пеўняў». 10.15 — М. Лакатнік. «Неверагодныя прыгоды Білянкі-Раскіданкі і Жыўкі-Лежабокі». Радыёпастаноўка па аднайменнай казцы. 11.10 — М. Балакіраў. «Ісламейн». Фантазія для фартэпіяна. 11.20 — Саветы: улада і справы. Радыёчасопіс. 11.40 — «З музычнай спадчыны». Творы Р. Пуксты. 12.00—апоўдні. 13.00 — у абедзенны перапынак. Інфармацыйна-музычная праграма. 13.57 — рэклама. 14.00 — «З музычнай класікі». Канцэрт. 15.15 — музычная праграма, прысвечаная калектыву Беларускай дзяржаўнай страхавой камерцыйнай арганізацыі. 16.05 — гульня без пройгрышу. Спартыўная праграма. 16.35 — «Жывое слова» Радыёклуб. 17.00 — «Джаз-хваля». Музычная праграма. 17.40 —«Машэрава, 21. Прафсаюзны веснік». 18.00—перадачы абласнога радыё. 18.40 — мінскія навіны (па гарадской сетцы). 19.00 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 19.45 — вячэрняя казка. 20.00—«Дзень нашага жыцця». На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. 21.30—спявае Сандра. 23.10—праграма радыёстанцыі «Сямейнае радыё» (ЗША). 23.25 — «Гучыць голас Зіновія Бабія». Музычная праграма. 0.00—1.00 — начны канал. «Маладая эстрада Беларусі».

## НАДВОР'Е

### 23 красавіка

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі кароткачасовыя ападкі. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 4—6, Гомелі, Мінску—5—7, Гродна — 7—9, Брэсце—8—10 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 24 красавіка месцамі кароткачасовыя ападкі, 25-га — у асноўным без ападкаў, тэмпература паветра ўначы 0—5 градусаў марозу, удзень 24-га — 6—11, 25-га — 8—13 градусаў цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ,**
**інжынер-сіноптык.**





## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 23 красавіка

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Трыццаць тры». Маст. фільм.
**10.00.** «Руская фантазія». Фільм-канцэрт.
**10.50.** «Балада пра доблеснага рыцара Айвенга». Маст. фільм.
**16.30.** Гісторыя Беларусі. 10 клас.
**17.00.** «Лапік і Воблака». Мультфільм.
**18.00.** «Ачаг». Дак. фільм.
**18.35.** Вясна выпрабаванняў. Клопаты і праблемы землякробаў. Перадача з Магілёва.
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Абласныя навіны (Гродна).
**19.35.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.40.** Тыдзень беларускага ўрада.
**19.55.** Калыханка.
**20.15.** «Крок».
**22.15.** На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.
**23.45.** НІКа.

**І канал. Астанкіна**

**9.05.** «Скрыжаванне». Аўтарская праграма М. Міхалкова.
**10.25.** Кубанскае вяселле.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**13.15.** Тэлемікст.
**14.00.** Навіны.
**14.25.** Пераможцы.
**15.10.** «Шабля без ножнаў». Маст. фільм.
**16.25.** «Дзяўчынка ў цырку». Мультфільм.
**16.45.** «Каб вы ведалі».
**17.00.** Навіны.
**17.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**18.00.** ІІІ Міжнародны тэлефестываль «Ступень да Парнаса». 2-гі тур.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** Маст. фільм «Дзве стралы».
**22.10.** «Партрэт». А. Руцкой.
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Шмат музыкі.
**0.05.** Футбол. На шляху да Уэмблі.

**Канал «Расія»**

**8.40.** Рэтра. Мая Крысталінская.
**9.20.** Палітаддзел.
**10.00.** Фарс-мажор.
**10.35.** А. Платонаў. «Катлаван». Версія Томскага тэатра лялек «Скамарох».
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Мульці-пульці. «Падарунка», «Па шчупаковаму загаду».
**15.45.** Хрысціянская праграма.
**16.15.** Школа менеджэраў.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** «Еўропа—Азія».
**17.45.** Паны-таварышы.
**18.00.** Парламенцкі веснік.
**18.15.** Студыя «Нотабене».
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Спецыяльны камерцыйны веснік.
**19.40.** «Украінскія сезоны ў Маскве». Багдан Ступка.
**20.55.** Пятае кола.
**22.00.** Весткі.
**22.25.** Спартыўная карусель.
**22.30.** Пятае кола. Працяг.
**23.15.** На сесіі ВС Расіі.
**23.45.** Цішыня № 9.

### 24 красавіка

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** Дак. фільм «Аўтапартрэт з кветкамі».
**9.00.** Гісторыя Беларусі. 10 клас.
**9.30.** «Веснавая сугучнасць». Фільм-канцэрт.
**10.15.** «Чалавек, які зламаў вясёлку». Дак. фільм.
**10.55.** «Радня». Маст. фільм з субцітрамі.
**16.30.** «Дом для Кузькі», «Капрызка», «Верашок». Мультфільмы.
**17.30.** «Без пяці 18». «Вучаць у школе».
**18.00.** Дак. фільм «Галасы аднаго дрэва».
**18.15.** Ці патрэбен Беларусі агратэхнічны універсітэт? Аб лёсе Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі.
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Абласныя навіны (Магілёў).
**19.35.** Наш каментарый. «Кадры рашаюць усё?»
**19.40.** Дыялог. Прэс-канферэнцыя кіраўніцтва Дзяржкамчарнобыля. Прымае ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў РБ І. А. Кенік.
**20.25.** Калыханка.
**20.45.** Тэлебіржа.
**21.00.** «Іх аб'яднала музыка». Іграюць Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі і Смаленскі рускі народны аркестр.
**22.00.** На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.
**23.30.** НІКа.

**І канал. Астанкіна**

**5.00.** Раніца.
**7.35.** Мультфільмы «У сінім моры, у белай пене», «Хто раскажа небыліцу?», «Натхненне».
**8.00.** Дак. фільмы «Мастацтва Фядоскіна», «Сякера вострая».
**8.35.** ...Да 16 і старэйшым.
**9.15.** Юбілейны канцэрт Л. Лешчанкі.
**11.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.20.** Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
**12.10.** Спорт для ўсіх.
**12.40.** Прэм'ера дак. фільма «Пачнём з храма».
**13.10.** «Марозны ўзор». Мультфільм.
**13.20.** Брыдж.
**13.45.** Бізнес-клас.
**14.00.** Навіны.
**14.25.** «Вось такая гісторыя». Маст. фільм.
**16.00.** Мультфільм «Ён уваскрэс» (ЗША).
**16.30.** «Музыканты пра музыку». Сустрэча з музыкантамі камернага аркестра «Расійская камерата».
**17.00.** Навіны.
**17.25.** Чалавек і закон.
**18.05.** Маст. фільм для дзяцей «Эміль з Ленебергі» (Швецыя). 4-я серыя «Эміль на кірмашы».
**18.30.** Прэзентацыя рэтраспектывы фільмаў Р. Чухрая.
**18.50.** Поле цудаў.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** «ВІД» прадстаўляе: «Токшоу», «Музагляд», «Так!», «Шоу-біржа», «Хіт-канвеер». У перапынку **(23.00)** — Навіны.
**0.15.** «Ранішняя зорка» ў начным эфіры.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** Час дзелавых людзей.
**8.25.** Англійская мова. 1-ы год навучання.
**8.55.** Вольны час. «Увага: здымаю».
**9.10.** Англійская мова. 2-гі год навучання.
**9.40.** Студыя «Нотабене».
**10.20.** Начны акцёрскі клуб. Выпуск 2-гі.
**11.50.** «Санта-Барбара». 36-я серыя.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Першы тайм. Урок для пачынаючых спартсменаў па настольнаму тэнісу.
**15.15.** Мульці-пульці. «Калі ласка!»
**15.25.** «Усяночнае дбанне».
**16.15.** Прастора плюс.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** Бізнес і палітыка.
**17.45.** М-трэст.
**18.00.** Мульці-пульці. «Снічы».
**18.10.** Белая варона.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** «Хрона».
**20.00.** «К-2» прадстаўляе: «Медыа», «Каронка», «САС», «3, 2, 1».
**22.00.** Весткі.
**22.20.** На сесіі ВС Расіі.
**22.50.** Маст. фільм «Летась у Марыенбадзе» (Францыя).

Галоўны рэдактар
У. Б. НАРКЕВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.*

ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ: адказны сакратар Уладзімір Андрыевіч, першы намеснік адказнага сакратара Яўген Ляхаў, старшы карэктар Вікторыя Кляновік.

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.*

*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63850.
Зак. № 83.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.05.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12